© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

наша свабода

№20 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

3 ТРАЎНЯ 2000 года СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




стр. 5

# Парад кожны дзень

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

**Перадсвяточная парадная ліхаманка беларускіх уладаў у гэтым годзе пераўзышла ўсе ранейшыя аналагі і рамкі. Апошнія два тыдні, што засталіся да 9 траўня, вайскоўцы адчуваюць сябе, як на гарачай патэльні, рэгулярна робячы рэйды ў цэнтр горада з мэтаю патрэніравацца ў «сатрасанні мускуламі». Між тым на тое, што гэта можа прыносіць нейкія праблемы жыхарам горада, ніхто, пэўна, і не зважае. Рэпетыцыі праходзяць часцей за ўсё пад покрывам ночы, у чым ёсць хаця б доля здаровага сэнсу.**

Але вось увечары дваццаць восьмага красавіка мінчане, гуляючы па праспекце Францыска Скарыны, сутыкнуліся з нечаканымі цяжкасцямі. Раптоўна, дзесьці без чвэрці дзевяць, увесь праспект, ад плошчы Незалежнасці да плошчы Перамогі, быў ачэплены міліцыяй ды вайскоўцамі. Тых, хто знаходзіўся на праспекце, пачалі выцясняць на бакавыя вуліцы. Аргументы кшталту «ў мяне (нас) тут сустрэча» альбо «ў мяне на тым баку праспекта машына прыпаркаваная» не дапамагалі. Перакрылі не толькі праспект Скарыны, але Нямігу, праспект Дзяржынскага. Каб трапіць на другі бок праспекта Скарыны, трэба было рабіць крук у некалькі кіламетраў. Тое ж датычылася і мінакоў, якія жадалі трапіць дадому. Раптоўная «атака» міліцыі застала знянацку па розныя бакі праспекта шмат людзей, для якіх гэты раён з'яўляецца ўлюбёным месцам прагулак, і цяпер яны стаялі, пазіралі адзін на аднаго, але сустрэцца ўжо не маглі.






Фота IREX/ProMedia



Прычынай усяго гэтага сталася рэпетыцыя святочнага параду, што плануецца правесці 9 траўня. Звычайна падобныя рэпетыцыі праводзіліся па начах, цяпер жа чамусьці новае кіраўніцтва горада ночы не дачакалася. У выніку «танкавых гулянняў» у гэты дзень было сарвана шмат дзелавых сустрэчаў, шмат людзей спазняліся дадому, на цягнікі. Значны фінансавы ўрон атрымалі ўстановы рэстараннага тыпу, што знаходзіліся і працавалі ў той час на праспекце. Да таго ж многім гэта проста значна псавала нервы і здароўе. Некаторыя, не жадаючы мірыцца з тым, што, каб перайсці вуліцу, ім прыйдзецца пратопаць дастатковую колькасць кіламетраў, бурна выказвалі сваё абурэнне ды спрабавалі прайсці ў «нахалку». Але ўсе спробы іх жорстка прыпыняліся ахоўнікамі правапарадку, колькасць якіх у гэты час была не меншай, чым падчас разгону масавых акцыяў апазіцыі.

Зрэшты, і гэта яшчэ не ўсё. Некаторыя, дом якіх знаходзіўся ў стометровай адлегласці, вельмі ціха і паслухмяна чакалі заканчэння рэпетыцыі ўсенароднага свята, думаючы, што ўсё вось-вось скончыцца, але не тут то было! Скончыўся парад а другой гадзіне ночы! І што самае абуральнае, па запэўніванні засынаючых на месцы ачаплення міліцыянтаў, гэта была не апошняя і нават не перадапошняя рэпетыцыя. ■

## В.Гродно арестовано 5 журналистов

2.05.2000 года в 14.10 в г.Гродно на площади Ленина, у здании городского исполнительного комитета арестованы 5 журналистов из газеты «Репортер». Арест проводился нарядом милиции ОВД Ленинского р-на г.Гродно. Арестованных посадили в автомобиль РАФ и увезли в Ленинский РОВД по адресу Гродно, ул. Тельмана, 9.Протокол задержания не составлялся.

Дело все в том, что в Гродно образовалось независимое издание – газета «Репортер». Для регистрации газеты необходимо разрешение городского исполнительного комитета. А председатель Гродненского исполнительного комитета его не дает.

Журналисты предприняли отчаянный шаг – под руководствам главного редактора «Репортера» Анджия Писальника, обвязавшись веревками, заклеив себе рты, они вышли к зданию Гродненского исполкома и встали возле памятника В.Ленину. На майках журналистов было написано: «Власть меня не любит, за что?», «Каждому мэру – по Конституции», «Если Вам известны случаи злоупотребления властью или факты коррупции чиновников горисполкома, звоните «Репортеру» по тел.44-61-22», «Хочу дружить с мэром, а он со мной – нет». 40 минут сотрудники милиции ходили вокруг журналистов и только потом решили их задержать. ■

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **Учора прыступіў да працы новы кіраўнік Інстытута сацыялогіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі - прафесар, доктар сацыялагічных навук Георгій Явелькін.** Палкоўнік Камітэта дзяржаўнай бяспекі, ён апошнія 15 гадоў перад выхадам у запас займаўся навукова-даследчай і педагагічнай дзейнасцю па праблемах сацыялогіі і псіхалогіі апаратыўна-вышуковай работы. Знаходзячыся на пенсіі, Г.Явелькін быў дырэктарам ім жа створанага навукова-выхаваўчага таварыства з абмежаванай адказнасцю «Альхон», якое займалася маркецінгам рынкаў паслуг і тавараў.

## Урад рыхтуе праект новага статута калгаса

Юрый ПАЦЁМКІН

Беларускі ўрад распрацоўвае праект новага статута сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва (калгаса). Пра гэта паведаміў намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі Анатоль Рубанік, выступаючы ў Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу 26 красавіка.

Справа ў тым, што Грамадзянскі кодэкс, які ўступіў у сілу 1 ліпеня 1999 года, не прадугледжвае такой формы ўласнасці, як калектыўная. Таму да 1 ліпеня 2000 года ўсе калектыўныя прадпрыемствы павінны быць пераўтвораны ў прадпрыемствы іншых, прадугледжаных гэтым дакументам, відаў або ліквідаваны.

Як адзначыў намеснік міністра, гаворка ідзе не аб ліквідацыі калектыўнай уласнасці, а толькі аб прывядзенні ўстаноўчых дакументаў калгасаў у адпаведнасць з дзеючым заканадаўствам. ■

# Першамай за кратамі

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Неспакойна прайшло святкаванне Дня працы ў Магілёве – каля 20 чалавек было затрымана міліцыяй, у тым ліку – некалькі журналістаў.**

У гэты дзень мясцовыя ўлады вырашылі адмовіцца ад святочнай дэманстрацыі і правесці толькі мітынг. Як паведаміў нам старшыня Магілёўскай суполкі БНФ «Адраджэнне» Анатоль Фёдараў, цэнтральная плошча Леніна, дзе меўся адбыцца мітынг, зранку была ачэпленая міліцыянтамі. Як тлумачыць гэты факт сам А.Фёдараў, некаторыя грамадзяне, «што належаць да дэмакратычнай апазіцыі і працуюць на прадпрыемствах горада», яшчэ напярэдадні паведамілі ўладам, што збіраюцца выйсці на мітынг з транспарантамі сацыяльна-эканамічнага зместу – кшталту «Сусветным цэнам – сусветны заробак», «Не – сацыяльнаму Чарнобылю» і г.д. Вось іх і чакала міліцыя.

Затрыманні праводзіліся яшчэ да пачатку мітынгу. Па словах А.Фёдарава, разам з апазіцыянерамі ў рукі міліцыі трапляліся і выпадковыя людзі. Усе затрыманыя былі сілком зацягнутыя ў машыны міліцыі і дастаўленыя ў Цэнтральны РАУС Магілёва (некалькі чалавек патрапілі ў Ленінскі РАУС). Там на іх былі складзеныя пратаколы аб непадпарадкаванні міліцыі. Чатыры чалавекі атрымалі на сённяшні дзень позвы ў суд.

Не абышлося ў Магілёве і без рэпрэсіяў супраць журналістаў. Карэспандэнт прыватнай газеты «Де-Факто» Ігар Ірхо пры затрыманні атрымаў лёгкія цялесныя пашкоджанні, у яго была разбітая фотакамера. Як і ўсе астатнія затрыманыя, ён правёў некалькі гадзінаў за кратамі. Пасля вызвалення ён вярнуўся ў РАУС, каб атрымаць накіраванне на экспертызу, якая б пацвердзіла наяўнасць пашкоджанняў. Аднак «жартаўнікі»-міліцыянты вырашылі затрымаць яго другі раз. Некалькі гадзінаў у РАУС быў вымушаны правесці яшчэ адзін журналіст – Аляксандр Александровіч з «БДГ».

Нягледзячы на ўсе гэтыя падзеі, афіцыйны мітынг адбыўся ў лепшых савецкіх традыцыях. На трыбуне прысутнічалі старшыня аблвыканкама Міхаіл Дражын, старшыня гарвыканкама, старшыня абласнога аб'яднання прафсаюзаў. На акцыю сабраліся каля 2,5-3 тысяч чалавек. У руках яны трымалі чырвона-зялёныя сцягі і партрэты А.Лукашэнкі. Лозунгаў было няшмат: «Слава працы», «Мір, праца, май». Паслухаўшы выступоўцаў, гараджане разышліся па хатах.

## НАДВОР'Е

Віцебск +7, Мінск +11, Магілёў +7, Гродна +12, Гомель +8, Брэст +13



Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 950

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# После приезда Путина прошло две недели

Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ

**В связи с приездом 16 апреля в Минск Владимира Путина, проездом в Лондон, Беларусь вновь оказалась в сводках новостей. По первым итогам встречи с А.Лукашенко, президент России заявил в «Заславле», что отношения между Россией и Беларусью касаются только этих двух стран. Он также отметил, что приоритетом в планах создания единого государства должно быть единое понимание в создании экономического базиса будущего государства. А не российско-белорусская 300-тысячная воинская группировка. Естественно, это подогрело интерес в мире к Союзу двух государств. На протяжении двух недель, прошедших со дня визита В.Путина в Минск, интерес к внутриполитической ситуации в Беларуси продолжал проявляться международным сообществом на различных уровнях.**



Так, в Минске побывали с ознакомительным визитом представители Комитета по международным делам Сената США Иэн Бжезинский и Марк Тиссен. Как заявили сами американские чиновники, побудительным мотивом их поездки стала растущая озабоченность Вашингтона по поводу жестокого подавления демонстрантов, исчезновений оппозиционных политиков, судебных преследований по политическим мотивам. Представители Сената провели ряд интенсивных встреч с представителями властей, оппозиции, семьями жертв режима и некоторых негосударственных СМИ. К сожалению, в контактах с журналистами была проявлена явно излишняя и труднопонятная скромность. С сыном знаменитого теоретика геополитики Збигнева Бжезинского, которого в последнее время нередко цитирует Александр Лукашенко, хотели встретиться многие журналисты. В том числе и аккредитованные в Минске от зарубежных СМИ.

Не меньший интерес вызвал первый приезд в Минск высокопоставленных представителей другого Сената, чешского. Одной из целей визита председателя Комитета по международным делам, обороне и безопасности Михала Желтовского и его коллег была демонстрация поддержки участникам «Чарнобыльскага Шляху». Вместе с бывшим пресс-секретарем чешского президента Вацлава Гавела в Минск приехали чешские журналисты, представители неправительственной организации «Люди в беде». Гости также провели ряд встреч с представителями различных белорусских структур. Конечно, чешский опыт мирного перехода к гражданскому обществу предпочтительней кровавого румынского. И эта тема, надо полагать, преобладала в прошедших беседах гостей из США, Чехии и Германии, посетивших Беларусь в апреле.

Депутаты бундестага подчеркивали, что в Германии растет интерес к Беларуси не только в связи с Чернобыльской катастрофой. Его вызывает и зачастую своеобразная трактовка международных обязательств в области гражданских свобод, других базовых принципов, которыми руководствуются ОБСЕ и прочие структуры. А факты исчезновений политических оппонентов режима были названы вопиющими и требующими международного расследования. Как известно, сегодня права человека не являются внутренним делом государства. Правда, подпись Б.Ельцина стоит под декларацией так называемой «шанхайской пятерки», где с подачи Китая и Казахстана этот постулат международного права оспаривается.

Помимо упомянутых гостей, в начале мая в Минск все же приедут представители тройки ОБСЕ – главы политических департаментов МИД Норвегии, Австрии и Румынии. Но результаты «общественно-политического диалога», который его оппоненты чаще именуют коллективным онанизмом, настолько плачевны, что представителям ОБСЕ будет просто не о чем говорить. Кстати, информированные источники уверяют, что терпению ОБСЕ в отношении нынешнего белорусского режима может придти конец уже в этом месяце. Так что после Парламентской ассамблеи Совета Европы, где Россию «казнили» за Чечню, предсказывается следующая экзекуция. На этот раз за Беларусь, но уже в ОБСЕ. Следует напомнить, что в мае партнеры по Союзу встретятся вновь – как минимум дважды: на инаугурации В. Путина и на заседании Высшего госсовета, где А. Лукашенко выступит, как было объявлено, «с аналитическим докладом».

Некоторыми деятелями, в том числе и в белорусской оппозиции, заявляется, что демократические импульсы в отношении Беларуси могут исходить не только из Запада, но и из России. После избрания нового президента Кремль обещает изменения в своей внешней политике. Встает вопрос об исторической миссии России на постсоветском пространстве, о зоне ее политической ответственности. При этом утверждается, что если США и ЕС имеют такие зоны, то почему Москва не должна стремиться создать ее в пределах бывшего СССР, объединяя вокруг себя прогрессивные, демократические силы? Ведь Россия — ядро бывшей империи и лидер либеральных преобразований 90-х годов в СНГ. Сторонники этой идеи полагают, что ни ОБСЕ, ни США не могут эффективно противостоять антидемократическим тенденциям в странах СНГ. Однако очевидно, что сегодня все эти аргументы перевешивает война в Чечне. Как утверждают международные наблюдатели, Европа оценивает действия Москвы в Чечне более жестко, чем США.

А что касается возможностей Владимира Путина влиять на своего белорусского союзника, то не прошло и двух недель, как Александр Лукашенко ответил ему по поводу «экономического фундамента» Союза Беларуси и России. В одном из интервью он заявил, что если ему как председателю Высшего государственного совета Союза дадут возможность, то он очень быстро унифицирует экономики двух стран с целью создания единого государства. Примером, конечно, будут служить результаты «правильного курса президентского правления в Беларуси».

В общем, оставленные после минского визита «мозги» для А. Лукашенко, которыми у В.Путина считаются разработчики стратегии развития директор Центра стратегических разработок Герман Греф и руководитель правительственной Рабочей группы Владимир Мау, положительного результата не достигли. Нынешняя белорусская экономическая модель остается наилучшей для Лукашенко— и неприемлемой для Москвы. ■

АКЦЫЯ

# Усебеларускі з'езд хоча мець гарантыі

Рыгор БУЯН

**Першая сесія Усебеларускага з'езда, прызначаная на 17-18 чэрвеня, скліікаецца адмыслова дзеля прыняцця Акта Незалежнасці. Пра гэта паведамляецца ў мемарандуме, падпісаным 27 красавіка сустаршынямі аргкамітэта Усебеларускага з'езда. У дакуменце таксама канчаткова сфармуляваныя мэты гэтага форуму.**

Мемарандум, падпісаны сустаршынямі аргкамітэта Генадзем Бураўкіным, Радзімам Гарэцкім, Анатолем Грыцкевічам ды Рыгорам Барадуліным, абвяшчае галоўнай мэтай з'езда прыняцце Акта Незалежнасці: *«Акт Незалежнасці ўмацуе падмурак беларускай дзяржаўнасці, закладзены Устаўнымі граматамі Рады БНР, Дэкларацыяй аб суверэнітэце і Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь. Спадзяёмся, што ён таксама стане дадатковым чыннікам салідарызацыі ўсіх дэмакратычных грамадскіх сілаў дзеля сумеснай працы на карысць Бацькаўшчыны і паспрыяе аднаўленню законнасці»*.

У мемарандуме гаворыцца, што *«ўсе крокі, скіраваныя на абмежаванне ці скасаванне суверэнітэту, павінны лічыцца незаконнымі і злачыннымі»*. Аўтары дакумента гатовыя шукаць паразумення *«з усімі, хто лічыць, што Беларусь павінна быць асобнай дэмакратычнай заможнай краінай, бо толькі разам магчыма палепшыць нашае сёння і дамагчыся шчаслівага заўтра для нашчадкаў»*.

Аргкамітэт у сваёй заяве падкрэслівае, што на першай сесіі Усебеларускага з'езда не будзе ні абрання «нацыянальных лідэраў», ні стварэння структураў, альтэрнатыўных дзяржаўным. *«Усебеларускі з'езд – грамадская ініцыятыва, скіраваная выключна на адстойванне суверэнітэту краіны. Калі мы гарантуем захаванне дзяржавы, дык яшчэ будзем мець час і нагоду вырашыць цывілізаваным шляхам усе надзённыя палітычныя праблемы»*, — сцвярджаюць аўтары мемарандума.

Былы прадстаўнік Беларусі ў ААН Генадзь Бураўкін наступным чынам ахарактарызаваў Акт Незалежнасці, над праектам якога працуе аргкамітэт:

— Мы хацелі б заявіць, што ні ў якія іншыя дзяржавы ні ў якой ролі Беларусь уваходзіць не павінна. Наша краіна павінна быць у саюзе з іншымі дзяржавамі, але не часткай якой-небудзь іншай дзяржавы. Хто ў такім выпадку страціць голас у міжнародных арганізацыях, калі Беларусь увойдзе ў склад Расіі? Голас свой у свеце непазбежна – нягледзячы на дэмагогію і дыпламатычныя хітрыкі – страціць Беларусь.

Павінна быць воля народа. Калі народ не хоча незалежнасці, то трэба так і гаварыць. Але гэта павінна быць воля народа. Мы ж хочам раслічваць на тое, што большасць беларусаў хочуць жыць у незалежнай, суверэннай, свабоднай Беларусі.

І другое. Мы хочам паправіць сітуацыю ў міжнароднай супольнасці і займець гарантыі нашай незалежнасці.

Апроч таго, у канцы мінулага тыдня аргкамітэт нарэшце вызначыўся з прадстаўніцтвам на Усебеларускім з'ездзе. Як паведаміў у сакратарыяце з'езда, дэлегаты ад раёнаў і гарадоў будуць абірацца з разліку 1 дэлегат на 10 тысяч выбарцаў. Вылучэнне грамадзянаў будзе праходзіць на агульных сходах, і абірацца дэлегаты будуць большасцю галасоў. Вызначаныя таксама квоты прадстаўніцтва на Усебеларускім з'ездзе ад грамадскіх арганізацыяў, палітычных партыяў, прафесійных і творчых саюзаў, нацыянальных зямляцтваў ды іншых структураў.

Варта дадаць, што дэпутаты Вярхоўнага Савета 13-га склікання ў поўным складзе могуць удзельнічаць у рабоце з'езда на правах дэлегатаў. Калі яны маюць жаданне, вядома, ды пра сваё жаданне не пазней за два тыдні да сесіі паведамяць у аргкамітэт Усебеларускага з'езда. Гэтыя ж умовы агавораныя і для арганізацыяў, партыяў, прафсаюзаў... ■

# Раскол у прафсаюзах не адбыўся

Рыгор БУЯН

**На мінулым тыдні беларускія ўлады паспрабавалі ўнесці раскол у Федэрацыю прафсаюзаў Беларускую, якая аб'ядноўвае 36 галіновых прафсаюзаў. З гэтай мэтай па ўказцы прэзідэнцкай адміністрацыі мінскія ўлады паспрабавалі правесці сустрэчу з кіраўніцтвам і прафактывам сталічных прадпрыемстваў. Нягледзячы на тое, што сустрэча задумвалася для знаёмства новага мэра Мінска Міхаіла Паўлава з прамысловасцю горада, яна фактычна перарасла ў антыпрафсаюзную акцыю. Зрэшты, нічога дзіўнага – прэзідэнцкая адміністрацыя патрабавала «ў выступленнях прафсаюзнага актыву акцэнтаваць увагу на падтрымцы курсу кіраўніцтва краіны, рэалізацыі рашэнняў прэзідэнта і кіраўніцтва краіны працоўнымі калектывамі, на крытыцы недахопаў у працы выбарчых прафсаюзных функцыянераў».**

На сходзе, што праходзіў 27 красавіка ў Палацы культуры МАЗ, прысутнічала каля 600 чалавек, якіх адбіралі паводле прынцыпу «кіраўнік завода – ягоны намеснік па ідэалагічнай працы – кіраўнік афіцыйнага прафкама». Прадстаўнікі прафсаюзаў прысутнічалі дзеля дэманстрацыі блізкасці ўлады да народа. Вёў сход намеснік старшыні Мінскага гарвыканкама Віктар Чыкін. У прэзідыуме сядзелі прадстаўнікі прафсаюзаў. Цікава, што запрашэнні на сход яны атрымалі толькі напярэдадні. Напрыклад, намеснік старшыні аб'яднання галіновых прафсаюзаў Мінска і Мінскай вобласці Чэслаў Федаровіч атрымаў запрашэнне толькі ў другой палове дня 26 красавіка.

З самага пачатку В.Чыкін прапанаваў прыняць нейкую рэзалюцыю. Па словах Ч.Федаровіча, ад удзельнікаў патрабавалася «асудзіць галіновыя прафсаюзы, якія замінаюць палітычнай дзейнасцю». Другім пунктам рэзалюцыі прадугледжвалася стварэнне гарадскога аб'яднання галіновых прафсаюзаў. І першы, і другі пункт Ч.Федаровіч лічыць умяшальніцтвам улады ў дзейнасць прафсаюзаў. Менавіта таму за прапановы, агучаныя В.Чыкіным, прагаласавала толькі шостая частка прысутных. Астатнія выступілі супраць, маркуючы, што на такім сходзе можна ўздымаць толькі сацыяльна-эканамічныя пытанні.

«Калі б гэтае рашэнне было прынятае, то яно, безумоўна, унесла б раскол у прафсаюзны рух, — кажа Ч.Федаровіч. — Любой уладзе не падабаецца, калі прафсаюзы праяўляюць прынцыповасць і самастойнасць у нейкіх пытаннях. Ёсць два шляхі ўзаемаадносінаў улады і прафсаюзаў: адзін – канструктыўны, а другі – як кажуць, дабівацца праціўніка. Мне здаецца, што ўлады абралі другі шлях: дабівацца».

Такой жа думкі прытрымліваецца і старшыня прафсаюза аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання (АСМ) Аляксандр Бухвостаў: «Старшыня гарвыканкама Міхаіл Паўлаў спрабаваў падаць гэта як сход гаспадарчага актыву з удзелам прафсаюзаў. На сходзе былі вылучаныя прапановы асудзіць асобных кіраўнікоў галіновых прафсаюзаў. Яны імкнуцца навязаць нам свой пункт погляду. Іхняя мэта — каб у кіраўніцтва Федэрацыі і галіновых прафсаюзаў прыйшлі людзі, якія будуць выконваць волю зверху».

Кіраўніцтва ФПБ у той жа дзень выказала «абурэнне парушэннем правоў прафсаюзаў і перашкодамі, што чыняцца іх законнай дзейнасці». ■

ТЭНДЭНЦЫІ

# Чарговы візіт «тройкі» АБСЕ

Алег САКАЛОЎ

4-5 траўня ў Мінску з візітам будуць знаходзіцца дырэктары па палітычных пытаннях міністэрстваў замежных справаў краінаў «тройкі» АБСЕ (Аўстрыя, Нарвегія, Румынія). Дэлегацыю ўзначальвае пасол Вальтэр Зігл (Аўстрыя). Разам з ім у Мінск прыедуць пасол Жыл Штайнар і спадар Канстанцінэску. Генеральнага сакратара АБСЕ будзе прадстаўляць дарадчык па стасунках з Беларуссю з цэнтра па прадухіленні канфліктаў пры сакратарыяце АБСЕ ў Вене Марыя-Леціцыя Пуглізі.

Падчас візіту члены дэлегацыі наваажаны правесці перамовы з прадстаўнікамі адміністрацыі прэзідэнта Беларусі і іншых афіцыйных структураў на прадмет развіцця дэмакратычных інстытутаў у рэспубліцы і выканання ёю сваіх міжнародных абавязацельстваў. Плануецца таксама сустрэча дэлегацыі АБСЕ з членамі Кансультатыўнага савета апазіцыйных палітычных партыяў.

У Кансультатыўна-назіральнай групе АБСЕ асоба адзначылі, што «візіт у Мінск «тройкі» АБСЕ падкрэслівае пастаянную заклапочанасць АБСЕ адносна маруднага працэсу развіцця дэмакратычных інстытутаў у Беларусі».

Прэс-канферэнцыя «тройкі» АБСЕ адбудзецца 5 траўня а 12-й гадзіне ў Нацыянальным прэс-цэнтры беларускай сталіцы. ■

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



ТЭХНАЛОГІІ

# Новая экономика, старые реалии

Эстер ДАЙСОН,
президент PC Forum, ведущий пропагандист и инвестор Интернета



Виртуальная ведущая новостей в Интернете Ананова

**Большая часть информации об Интернете скрыта от нашего внимания. Конечно, мы не знаем многого и о простых дорогах: сколько дорог вообще существует; сколько людей перемещается по этим дорогам, сколько есть автомобилей (учитывая, что какие-то из них были выброшены на свалку, а другие выведены из строя в авариях). Однако, нельзя недооценивать роль автомобиля в экономике.**

Интернет, как и сеть дорог, – это интегрированный канал сообщения, но только сообщения иного рода – для обмена информацией. Пройдет еще немного лет, и к Интернету будет подключено больше приспособлений, чем людей. С момента рождения и последующие 40 лет своего существования компьютеры «не знали» ничего, за исключением голой цифровой информации, которую вкладывали в них люди. Большая часть этой информации принадлежала категории «Финансы и бизнес» или же была чисто абстрактной. Сегодня, посредством Интернета, мы соединяем все со всем.

Внезапно вы обнаружите: ваш холодильник в коммуникационной сети! Ярлык на вашем авиабагаже несет информацию о том, куда его отправили – пункт его назначения окажется отличным от того места, куда летели вы. Школьный автобус оповещает о своем скором прибытии, чтобы ваши дети успели на него. Поезда докладывают о своём опоздании. Нам станет доступно всё, что нам необходимо знать не только об информационном мире, но и о мире физическом. Все это в корне изменит наши представления об окружающем нас пространстве и, конечно же, неминуемо должно произойти везде благодаря Интернету. И эти изменения – *там* – обещают быть гораздо ощутимее, чем когда их переживали США, потому что американская экономика была уже тогда эффективной и высокопродуктивной.

Нельзя, например, говорить о сверхэффективности Западной Европы — с ее бесконечным списком правил и ограничений, а также различными законами, которые не гармонизированы. Нужно это признать. Каждое отдельное государство следует директивам своих правительств в своем стиле. К установлению цен в Европе относятся с моралью, в то время как в США на это смотрят практично: выдержал бы рынок. Позиция европейской элиты – хоть она поддерживает внедрение высоких технологий, выступает за развитие связанного с ними бизнеса – напоминает позицию советского правительства, которое в 1990 г. собиралось тогда отпустить рыночные цены, следуя, якобы, американской модели.

Экономика, основанная на Интернете, не может работать на общество, неприемлющее Интернет. Это подразумевает взаимодействие людей. Это предполагает заказчиков, не желающих быть защищенными; тех, кто заинтересован в свободе выбора. Это конец всему официально насаждаемому, что неминуемо ведет к потере контроля над прессой, телевидением. Если, к примеру, все еще возможно ограничить время телетрансляций на том или ином языке, то уже невозможно контролировать выбор



Мама с помощью Интернета наблюдает за своим ребенком в детском саду

разделит страны на те, что уже «подключены», и те, что еще «не подключены».

Моё следующее предупреждение: подходите к вопросу Интернета серьёзно. За последние 10 лет я наблюдала огромные изменения, происходящие в Восточной Европе. Целые общества и экономические структуры, в прошлом непродуктивные и просто курьёзные, были рационализированы. Респектабельные компании рухнули. Люди, занимающие высокие руководящие посты, осознали свою бесполезность. То же самое и пути доступа к информации через Интернет. Крупнейшие компании, традиционные пути ведения бизнеса, предопределенные системы назначения цен, установленные связи распределения – это всё сейчас под угрозой.

Прыгнуть через реку первыми или же пойти следом за всем остальным миром? Вот задача, стоящая перед каждым современным государством. В поддержку тем, кто уже готов к прыжку: хорошо бы твердо знать, где вы хотите приземлиться. ■

P.S.

# Чатыры гады маладога міністра

Расціслаў ПЯРМЯКОЎ

**27 красавіка міністр прадпрымальніцтва і інвестыцыяў Аляксандр Сазонаў указам А.Лукашэнкі быў вызвалены са сваёй пасады і прызначаны «памочнікам прэзідэнта – галоўным інспектарам па г.Мінску». Цяпер ён будзе сачыць за дзейнасцю лукашэнкаўскай «вертыкалі» ў сталіцы.**

Аляксандр Сазонаў быў на чале міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцыяў (МПІ) з моманту ягонага стварэння ў 1996 годзе, а да таго часу займаў пасаду памочніка прэзідэнта па пытаннях прадпрымальніцтва. Што ж добрага зрабілі А.Сазонаў і ягоныя падначаленыя за амаль чатыры гады, чым запомніўся нам даволі малады яшчэ міністр?

27 студзеня гэтага года адбылася калегія МПІ, на якой былі падведзеныя некаторыя вынікі працы ведамства. Сам А.Сазонаў распавёў пра «пасляховую» дзейнасць міністэрства: істотна знізілася колькасць прадпрыемстваў недзяржаўнай формы ўласнасці (у 1995 годзе – каля 213 тысяч, у 1999 – 71,7 тысячы, па словах міністра). Колькасць працаўнікоў у недзяржаўным сектары за 1998-1999 гады скарацілася на 17 тысяч чалавек. Скарачаліся паступленні ад недзяржаўных структураў у бюджэт...

Каб перааолець крызісную сітуацыю, міністр прапанаваў «стварыць адмысловую рабочую групу, якая б прааналізавала існуючую сітуацыю і выпрацавала прапановы па выпраўленні становішча». Але далёка не ўсе ведаюць, што схільнасць ствараць шматлікія рабочыя групы – як і «аналізаваць існуючую сітуацыю» – праявілася ў Аляксандра Сазонава даўно.

Яшчэ ў 1997 годзе міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцыяў «праславілася» тым, што здолела растраціць прыкладна мільён доляраў без асаблівага эфекту. Міністэрства атрымала з бюджэту 35,5 мільярды рублёў (на той час – прыкладна мільён доляраў) на рэалізацыю дзяржаўнай праграмы падтрымкі прадпрымальніцтва, а потым *пачало* іх актыўна траціць. За суму ў 17,97 мільярда (каля 450.000 доляраў) высокакваліфікаваныя спецыялісты з БДУ правялі для МПІ шмат вельмі патрэбных навуковых даследаванняў – кшталту, што менавіта замінае прадпрымальнікам добра працаваць, чым яны задаволеныя, а чым – не, і г.д. Вось дзе ўжо праяўляецца любоў А.Сазонава да фундаментальнай навукі. Яшчэ 3 мільярды (каля 75.000 доляраў) пайшло на ўтварэнне новага і вельмі патрэбнага Беларусі часопіса «Прадпрымальніцтва ў Беларусі». 2,2 мільярда (55.000 доляраў) было выдаткавана на распрацоўку архітэктурнага праекта Дома прадпрымальніка на праспекце Машэрава. За ўвесь 1997 год МПІ змагло ўтварыць *менш* за 3.000 новых працоўных месцаў. Не лепш міністэрства працавала і ў іншыя гады.

Але вернемся да асобы



Аляксандра Сазонава. Нягледзячы на свой даволі юны ўзрост, міністр прадпрымальніцтва і інвестыцыяў паспеў засвяціцца ў некалькіх недарэчных, непрыемных і проста скандальных гісторыях.

Увясну 1996 года А.Сазонаў стаў галоўнай сведкай па справе аб хабарніцтве. Па версіі следства, старшыня Першага рэспубліканскага інвестыцыйнага фонду і дырэктар некалькіх кампаніяў Аляксандр Саманкоў спрабаваў даць А.Сазонаву (на той момант – яшчэ толькі памочніку прэзідэнта) хабар у памеры 15.000 долараў. Па версіі самога А.Саманкова, дарэчы, добрага знаёмца А.Сазонава, той папрасіў пазычыць яму грошай – на лячэнне за мяжой старэйшага брата, Міхаіла Сазонава. Як бы там ні было, але пасля двух гадоў следства і судовага разбіральніцтва А.Саманкоў быў асуджаны да 6 гадоў пазбаўлення волі. Відавочцы сцвярджаюць, што на судзе А.Сазонаў паводзіў сябе дзіўна, блытаўся ва ўласных паказаннях. Адвакат А.Саманкова Гары Паганяйла прадстаўляў суду дакументы, што сведчылі пра буйныя выдаткі А.Сазонава за мяжой. Г.Паганяйла сцвярджаў, што чыноўнік, які жыве на адну зарплату, не можа сабе дазволіць траціць такія сумы. Суд пакінуў усе гэтыя заявы па-за ўвагай. Маральна-этычны аспект справы: замест таго, каб проста адмовіцца ад небяспечнай прапановы (калі яна насамрэч была), Аляксандр Сазонаў пры дапамозе «органаў» фактычна справакаваў А.Саманкова на хабарніцтва.

У 1997 годзе Аляксандр Сазонаў доўга *пераконваў* г.зв. Нацыянальны сход, каб той прыняў асобны закон аб істотных ільготах для аднаго канкрэтнага інвестара – кампаніі *Ford*. Нечуваны выпадак – але такі закон быў прыняты! Праўда, праз некалькі месяцаў А.Лукашэнку давялося яго адмяніць.

Улетку таго ж года адбыўся малазразумелы канфлікт – адзін з кліентаў начнога рэстарана ў Мінску раптам пачаў пальбу з пісталета, за што нібыта быў добра пабіты і трапіў у шпіталь. Застаецца заўважыць, што «стралком» быў Аляксандр Сазонаў.

Кожны дзяржаўны чыноўнік мусіць праходзіць атэстацыю. Як у свой час прызнаўся ў інтэрв'ю «БДГ» начальнік аднаго з аддзелаў у прэзідэнцкай адміністрацыі Віктар Ящчук, больш за ўсё нараканняў ад атэстацыйнай камісіі атрымаў А.Сазонаў.

Летась А.Лукашэнка пацікавіўся ў міністра прадпрымальніцтва і інвестыцыяў: якую частку прадпрымальніцкага корпуса ахоплівае сваёй падтрымкай міністэрства? Па словах А.Сазонава, гэты паказчык за тры гады працы МПІ не перавысіў 10%.

Сёлета, калі прадпрымальнікаў нечакана абавязалі сплачваць падатак на дададзеную вартасць, а тыя ў адказ сталі пагражаць страйкам, Аляксандр Сазонаў паабяцаў заблакіраваць прэзідэнцкі дэкрэт аб паслабленнях для прадпрымальнікаў. «І ў далейшым любы ціск з пазіцыі сілы будзе ўспрымацца мною адэкватна», — заявіў міністр.

У чацвер, 27 красавіка, А.Сазонаў сабраў калегію і паведаміў, што пакідае міністэрства і што выконваць абавязкі кіраўніка будзе пакуль першы намеснік міністра Анатоль Скорбеж. Цікавы факт: шмат гадоў А.Скорбеж працаваў у міліцыі – у аддзеле барацьбы з крадзяжом сацыялістычнай уласнасці і спекуляцыяй (так расшыфроўваецца вядомая руская абрэвіятура ОБХСС). Дарэчы, там ён пасябраваў з Міхаілам Сазонавым, братам нашага «героя».

Віцэ-прэзідэнт Беларускага саюза прадпрымальнікаў **Аляксандр ПАТУПА** так характарызуе працу МПІ і А.Сазонава:

— Калі міністэрства было толькі ўтворанае – у 1996 годзе – я сказаў: «Інвестыцыяў ужо няма, цяпер не будзе і прадпрымальніцтва». На жаль, фактычна так і атрымалася.

Я лічу, што стварэць міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцыяў было абсалютна *непатрэбна*. Насамрэч дастаткова мець упраўленне або нават аддзел у міністэрстве эканомікі, які б вывучаў, даследаваў вельмі важныя працэсы, што адбываюцца ў прадпрымальніцкім асяроддзі. *Напэўна*, гэта каштавала б разоў у дзесяць танней – і было б разоў у дзесяць болей карысна.

Шмат захадаў, што робіцца нашай уладай, паказваюць, што яна абсалютна не разумее, з кім мае справу. Праблема ў тым, што можна больш-менш паспяхова гандляваць прахаладжальнымі напоямі, але пры гэтым нічога не разумець у сістэмнай эканоміцы.

Аляксандр Сазонаў сам калісьці займаўся прадпрымальніцтвам, гандляваў прахаладжальнымі напоямі і ў гэтай якасці падтрымліваў А.Лукашэнку. Пасля ягонай перамогі на выбарах стаў памочнікам па пытаннях прадпрымальніцтва. Натуральна, што калі стваралася міністэрства, то першым кандыдатам на пасаду міністра быў ён.

МПІ і асабіста Аляксандр Сазонаў імкнуліся стварыць «пад сябе» нейкія суперсаюзы прадпрымальнікаў. Яны б таксама збіралі сродкі – і гэтыя сродкі кантраляваліся б міністэрствам.

Міністэрства нічога не рабіла, калі А.Лукашэнка двойчы прыпыняў рэгістрацыю суб'ектаў гаспадарання – нечуваная рэч! Яно не супрацьдзейнічала з'яўленню славутага дэкрэта №40 летась – і цяпер у любы момант «органы» могуць канфіскаваць маёмасць прадпрымальніка на падставе адных падазрэнняў у парушэнні закона... Пра якую абарону інтарэсаў прадпрымальніцтва можна казаць?

Праблема прыцягнення інвестыцыяў у Беларусь таксама не была вырашаная міністэрствам. На аднаго жыхара Беларусі прыходзіца адзін-два долары замежных інвестыцыяў у год, паводле афіцыяльнай статыстыкі. У той жа час у нашых суседзяў гэты паказчык складае некалькі дзесяткаў долараў у год з разліку на аднаго жыхара краіны.

Карацей, хачу сказаць, што не бачу нічога карыснага ў дзейнасці міністэрства. Што ж датычыць А.Сазонава, то я сустракаўся з ім на розных паседжаннях, слухаў выступы... На вялікі жаль, усё гэта стварыла ўражанне поўнай пустэчы. ■



© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



## Разбор палётаў

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

Камандуючы ракетнымі войскамі Украіны Уладзімір Цярэшчанка звольнены з Узброеных сілаў «за недахопы ў арганізацыі і правядзенні ракетных стрэльбаў». Гэта адбылося пасля таго, як міністэрства абароны Украіны было нарэшце вымушанае пацвердзіць версію пра тое, што жылы дом у Броварах быў разбураны менавіта ў выніку падзення вучэбнай ракеты.

Нагадаем, што некалькі тыдняў таму 9-павярховы жылы дом у Броварах (Кіеўская вобласць) быў часткова разбураны, а 3 чалавекі загінулі. Да апошняга часу ваенныя Украіны адмаўлялі, што маюць нейкае дачыненне да гэтай катастрофы, пакуль не высветлілася: вучэбная ракета адхілілася ад курсу амаль на 90 кіламетраў і ўпала на дом. Выбухі двух газавых генератараў удо ў паветры адарвалі хваставую частку ракеты з рулямі кіравання. Прычыны выбуху могуць назваць толькі спецыялісты з завода-вытворцы ракеты, а выраблялася яна ў расійскім горадзе Воткінску. Тэхнічная дэлегацыя адтуль ужо накіравалася ў Кіеў.

Міністр абароны Украіны Аляксандр Кузьмук паведаміў пра кадравыя высновы трагедыі. Апроч звальнення камандуючага ракетнымі войскамі, некалькіх пагонных «зорачак» пазбавіўся першы намеснік камандуючага войскамі паўднёвага аператыўнага камандавання Валерый Пашынкі – за неаб'ектыўную ацэнку вынікаў вучэнняў. Афіцэр баявой падрыхтоўкі ракетных войскаў Георгій Карнееў звольнены з Узброеных сілаў Украіны за неаб'ектыўны рапарт пра вынікі стрэльбаў. ■

## Расія зноў атакуе Латвію?

Ірына СТАРЦАВА

**Прэзідэнт Латвіі Вайра Віке-Фрайберга заявіла, што ўсур'ёз апасаецца ўзброенай агрэсіі з боку Расіі.**

У інтэрв'ю BBC В.Віке-Фрайберга папярэдзіла кіраўнікоў заходніх дзяржаваў аб магчымым узброеным уварванні расійскіх войскаў у краіны Балтыі. Яна выказала сур'ёзную заклапочанасць апошнімі «агрэсіўнымі» заявамі расійскага МЗС. Па словах прэзідэнта Латвіі, гэтыя выказванні «вяртаюць стасункі паміж краінамі ў эпоху халоднай вайны». «Любая агрэсія ў дачыненні Латвіі можа разглядацца як прамая агрэсія ў дачыненні Еўрасаюза і ўскосная – у дачыненні NATO», – падкрэсліла Вайра Віке-Фрайберга.

Нядаўна прадстаўнікі міністэрства абароны Расіі заяўлялі, што ўваходжанне Латвіі ў склад NATO стварае пагрозу для бяспекі Расіі. Магчыма, што менавіта гэтыя заявы выклікалі такую жорсткую рэакцыю кіраўніка балтыйскай краіны. З другога боку, расійскі амбасадар у Латвіі папярэдзіў латвійскі бок пра магчымае скарачэнне гандлёва-эканамічных сувязяў да таго часу, пакуль Рыга не перапыніць судовы пераслед былых грамадзянаў СССР за генацыд супраць латышскага народа пасля 1945 года.

Тым не менш, прэзідэнт Латвіі выказала спадзяванне, што ў знешняй палітыцы Расіі адбудуцца пазітыўныя зрухі, і добрасуседскі дыялог будзе працягнуты. ■

## Дзень свабоды СМІ

Міхась КАРПОВІЧ

36 журналістаў былі забітыя ў 1999 годзе пры выкананні прафесійных абавязкаў, паведаміла ў мінулую пятніцу арганізацыя «Рэпарцёры без межаў». У 1998 годзе гэтая лічба была амаль у два разы меншай.

Як вядома, 3 траўня адзначаецца ва ўсім свеце як Сусветны дзень свабоды сродкаў масавай інфармацыі. У сваёй гадавой справаздачы «Рэпарцёры без межаў» паведамляюць, што на сённяшні дзень свабоды прэсы няма ў больш чым 20 краінах, дзе жыве каля 2 мільярдаў чалавек. У сваю чаргу, ААН з нагоды надыходзячага свята заявіла, што гатовая дапамагаць СМІ ў выкананні іхняй «важнай і часта небяспечнай місіі». ■

## Сорас «праляцеў» на 5 мільярдаў

Ірына СТАРЦАВА

Як стала вядома, за апошні месяц інвестыцыйныя фонды вядомага амерыканскага мільярдэра Джорджа Сораса страцілі 5 мільярдаў долараў – з 14,2 мільярда.

Агенцтва РБК паведамляе, што такія буйныя страты выкліканыя неправільнай інвестыцыйнай палітыкай фондаў *Quantum* і *Roditi Resign*, якія належаць Дж.Сорасу.

Згодна з інфармацыяй РБК, з другой паловы мінулага года сорасаўскія фонды ўкладвалі свае сродкі ў высокатэхналагічныя кампаніі – тэлекамунікацыйныя, інтэрнэт-кампаніі і г.д. У выніку гэта дазволіла фондам скончыць 1999 год з 5%-м прыбыткам – нягледзячы на тое, што ў першай палове года, калі сродкі ўкладваліся ў кампаніі традыцыйнай эканомікі, фонды толькі неслі страты.

Але цяпер сітуацыя істотна змянілася, акцыі высокатэхналагічных кампаній таннеюць проста на вачах, і таму Дж.Сорас зноў церпіць страты. Як мяркуюць аналітыкі РБК, такі ўдар можа прывесці нават да закрыцця фонду *Quantum* – які ў свой час дапамог Дж.Сорасу вырвацца наперад і зарабіць мільярды. ■

# Галаўны боль Украіны

Кірэй МАНУЙЛАЎ

**«Паўвыспа скарбаў» Крым застаўся ў памяці жыхароў колішняга СССР, у тым ліку многіх беларусаў, выключна як дабрабытнае курортнае месца. Аднак за апошняе дзесяцігоддзе стабільнасць і напаўдрэмнасць змяніліся клубком няпростых праблемаў – ад украінска-расійскага палітычнага супрацьстаяння вакол гэтай тэрыторыі да крымска-татарскага пытання. Так, ва Украіне штогод з трывогай чакаюць 18 траўня – дня дэпартацыі крымска-татарскага народа з гістарычнай радзімы.**

Крымскія татары – самастойны этнас цюркскага паходжання. Калісьці гэты народ меў сваю дзяржаву – Крымскае ханства. Так было да 1783 года, калі паўвыспа была далучаная да Расійскай імперыі. З гэтае пары распачаўся генацыд крымска-татарскага насельніцтва. Напрыклад, калі на момант далучэння да Расіі ў Крыме жылі 4 млн. крымскіх татараў, то перад Другой сусветнай вайной іх засталося толькі паўмільёна.

У найноўшай гісторыі крымска-татарскі рух і з'яўленне праабраза сённяшняй Аўтаномнай Рэспублікі Крым узбухторылі рэвалюцыйныя падзеі 1917 года. Тады быў агалошаны, прычым, не толькі крымскімі татарамі, а і астатнімі жыхарамі Крыма, лозунг «Крым – крымцам!».

У 1920-ыя, пасля Першай сусветнай вайны, Турэччына апынулася ў вельмі цяжкім становішчы, а Савецкай Расіі неабходна было прызнанне хоць бы якіх заўгодна краінаў. Туркі пагадзіліся «сябраваць» за золата, зброю, медыкаменты і выкананне шэрагу тэрытарыяльна-палітычных умоваў, у тым ліку зменаў ва ўнутраных межах краіны бальшавікоў. Так, Нагорны Карабах у якасці аўтаномнай часткі ўвайшоў у склад Азербайджана, а Крым наогул зрабілі асобнай рэспублікай. У новастворанай Крымскай рэспубліцы разгарнулася сапраўднае адраджэнне крымска-татарскай нацыі. Крымска-татарская мова разам з рускай стала другой дзяржаўнай.

Але ў 1921 годзе рэспубліка на крымскай паўвыспе ператварылася ў аўтаномію ў складзе РСФСР. У Крымскай АССР крымска-татарскі народ таксама пачуваўся няблага. Як вядома, у 20—30-ыя гады адноса ўсіх нацыяў праводзілася палітыка гэтак званай «карэнізацыі». Тады нават татарскія мячэці цярпелі меней, чым цэрквы, а пераважная колькасць расійцаў паўвыспы нават валодалі крымска-татарскай мовай.

Падвойная бяда для крымскіх татараў прыйшла разам з Другой сусветнай вайной. 18 траўня 1944 года па абвінавачванні ў «здрадзе Радзіме» пачался іх масавая дэпартацыя з Крыма. На гэты народ ускладалі ўсе правіны за наўдачы крымскай партызанкі, рабаваннем з боку якой наважыліся супрацьстаяць крымска-татарскія атрады самаабароны.

На пачатак вайны ў Крыме налічвалася 560 тысячаў крымскіх татараў, з іх 137 тысяч былі мабілізаваныя ў войска. Непасрэдна ў Крыме знаходзілася 423 тысячы чалавек: 200 тысяч – дзеці, 178 тысяч – жанчыны, 45 тысяч – старыя, інваліды, удзельнікі партызанскага руху. Усе яны за адны суткі былі вывезеныя НКУС ва Узбекістан, Кіргізію, Казахстан, на Урал. Ад цяжкіх умоваў пераезду, нязвыклага клімату, голаду толькі за першыя паўтара года пасля дэпартацыі памерлі 195 тыс. крымскіх татараў. Тым часам у Крыме знішчаліся помнікі матэрыяльнай і духоўнай крымска-татарскай культуры, паліліся газеты і кнігі на крымска-татарскай мове, татарскія назвы населеных пунктаў і вуліцаў замяняліся на рускія, руйнаваліся мячэці і мусульманскія могілкі.

У 1954 годзе Мікіта Хрушчоў увёў крымскую аўтаномію ва ўкраінскія межы. У 1956 годзе рэжым спецпасяленняў для крымскіх татараў адмянілі, але ярлык забароны на вяртанне ў Крым заставаўся ўсё роўна. Толькі ў 1967 годзе скасавалі абвінавачванне ў «здрадзе Радзіме» і дазволілі вяртацца ў родныя мясціны. Але з некалькіх дзесяткаў тысяч паехаўшых у Крым уладкавацца пашчасціла адзінкам: тамтэйшыя чыноўнікі мелі загад не прапісваць крымскіх татараў, не прадаваць ім жытла і не прымаць на працу.

У гады «перабудовы» замоўчваць крымска-татарскую трагедыю стала ўжо немагчыма. Тым не менш савецкае кіраўніцтва пастаралася «забалтаць» праблему. Лідэры крымска-татарскага руху прымаюць рашэнне па несанкцыяваным вяртанні ў Крым. Як вынік, да лета 1990-га на паўвыспе ўжо знаходзілася 83 тысячы крымскіх татараў супраць 17 тысяч у 1988 годзе.

Зараз крымскія татары складаюць 11% (260 тысяч) ад усяго насельніцтва паўвыспы. Сёлета – апошні год ажыццяўлення Дзяржаўнай праграмы па вяртанні і ўладкаванні дэпартаваных народаў. Але Крым атрымаў толькі трэць ад усіх сумаў прадугледжанага фінансавання сацыяльна-культурнай сферы і капітальнага будаўніцтва жытла для рэпатрыянтаў. У выніку 120 тыс. крымскіх татараў не маюць уласных дамоў. З усёй колькасці працаздольных пастаянна працуе менш паловы. А з 300 месцаў кампактнага пражывання крымскіх татараў 60% не забяспечаныя вадой, 25% – электраэнергіяй, 95% – без газіфікацыі і асфальтаваных дарогаў. Апрача натуральнага незадавальнення такімі ўмовамі існавання, крымскія татары выступаюць за пашырэнне сваіх палітычных правоў. Яны ўпарта патрабуюць статусу карэннай нацыі Крыма, нацыянальных прадстаўнічых квотаў ва ўсіх галінах улады аўтаноміі, увядзення меджлісу – самаарганізаванага крымска-татарскага парламента – у палітыка-прававое поле Украіны, спрашчэння працэдуры атрымання імі ўкраінскага грамадзянства (не маюць яго, а значыць, і права ўдзельнічаць у выбарчых кампаніях рознага ўзроўню, прыкладна 100 тыс. рэпатрыянтаў).

Відаць, прычыны недастатковага рэжыму спрыяння, у прынцыпе, гістарычна справядлівай інтэграцыі крымскіх татараў у крымскі соцыум палягаюць у варунках вялікай палітыкі. Крымска-татарская дыяспара разглядаецца як паступова ўсё больш рэальная трэцяя сіла, патэнцыйна дужа канкурэнтназдольная з украінцамі і рускімі, якая можа задамінаваць на паўвыспе. У крымскіх татараў ёсць вялікі чалавечы рэсурс, каб у кароткі тэрмін амаль удвая павялічыць сваю колькасную прысутнасць у Крыме. На абшарах СНД жыве яшчэ 200 тыс. крымскіх татараў, якія маюць жаданне далучыцца да суайчыннікаў на паўвыспе. Зараз сюды іх штогод прыязджае па 5–8 тысяч.

Цяпер сітуацыя такая, што, нягледзячы на тое, што, паводле Канстытуцыі Аўтаномнай Рэспублікі Крым, паўвыспа з'яўляецца «неад'емнай складовай часткай Украіны», яна, па сутнасці, якраз найменш украінская, а пераважна расійская і крыху крымска-татарская. Для правядзення хоць бы «паўзучай украінізацыі» краю даводзецца балансаваць, нівеліраваць адначасова ўплывы з абодвух гэтых бакоў. Узаемаінтарэс тымчасовы і просты: украінцы намагаюцца калі не ўкраінізаваць, то хоць бы дэрусіфікаваць Крым, а крымскія татары разумеюць, што без удзелу Кіева ў АРК справе рэпатрыяцыі наогул аніякай падтрымкі не будзе, а нават хутчэй за ўсё пойдзе адваротны працэс. Зараз у Крыме шматлікія рускія іх інакш як «бандытамі» альбо «набрыддзю» не называюць. ■

## Падарунак другога гатунку

Міхась КАРПОВІЧ

Расійская дзяржаўная хлебная інспекцыя забараніла ўвоз у Расію 9 тысяч тон жыта з Германіі. Экспертыза паказала, што зерне заражанае небяспечным грыбковым захворваннем – спарыннёй. Партыя няякаснага збожжа, што патрапіла ў Расію шляхам камерцыйных паставак, ужо вернутая з Санкт-Пецярбурга ў нямецкі порт Ростак. ■

## Царква хоча плаціць

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

Італьянская каталіцкая царква выказала жаданне пагасіць дзяржаўныя запазычанасці дзвюх афрыканскіх краінаў – Гвінеі і Замбіі – у памеры 170 мільёнаў долараў.

Прадстаўнік царквы, біскуп Дон Марыя Оперці заявіў, што царква гатовая пагасіць гэтую запазычанасць пры ўмове, што ўрады абедзвюх краінаў выдаткуюць «эквівалентныя» сумы на розныя праекты развіцця. Па ягоных словах, царква хоча зрабіць канкрэтны жэст дапамогі найбяднейшым краінам. ■

## Камуністычны рэжым – злачынны

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

Камуністычны рэжым у Балгарыі абвешчаны злачынным. Прэзідэнт краіны Пётр Стаянаў падпісаў адпаведны ўказ. Напярэдадні балгарскі парламент прыняў закон, які асуджае дзеянні камуністычнага кіраўніцтва краіны ў перыяд з 1944 па 1989 гг.

Па словах прэзідэнта Балгарыі, новы закон не дае, не пазбаўляе і не парушае ніякіх правоў грамадзянаў і з'яўляецца законам-дэкларацыяй. Пётр Стаянаў прызнаўся, што сумняваўся ў неабходнасці такога закона, але пасля таго, як дэмакратычная бальшасць у парламенце забяспечыла ягонае прыняцце, прэзідэнт падтрымаў гэтае рашэнне. ■

## Албанія без золата

Міхась КАРПОВІЧ

Са сховішча міністэрства фінансаў Албаніі скрадзеныя залатыя зліткі на суму амаль у 3 мільёны долараў. Гэтыя зліткі ўваходзілі ў золатавалютны запас краіны.

Яшчэ ў студзені албанская служба бяспекі звярнула ўвагу, што нехта спрабаваў збіць запоры з дзвярэй сховішча, аднак тады спроба рабаўніцтва не атрымалася. Па іншай версіі, сховішча магло быць абрабаванае яшчэ ў 1997 годзе, падчас масавых бясчынстваў пасля краху некалькіх фінансавых пірамідаў. Цікава, што само сховішча знаходзіцца ў глыбокім падземным тунэлі, за дзесяткамі ўзмоцненых дзвярэй.

Албанскія ўлады паінфармавалі пра надзвычайнае здарэнне Міжнародны валютны фонд і Сусветны банк. У тэрміновым парадку распачалося следства. Паводле апошніх дадзеных, выпісаныя ордэры на арышт трох афіцэраў, што ахоўвалі сховішча, – іх падазраюць ва ўчыненні крадзяжу.

Не трэба забывацца, што Албанія – адна з найбяднейшых краінаў Еўропы, так што страта 3 мільёнаў долараў можа аказацца фатальнай. ■

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# РКПБ как зеркало белорусской эволюции

Вероника ЧЕРКАСОВА

**Нет нужды повторять старую истину о том, что от здоровья детей зависит будущее любой нации. Данные о состоянии психического здоровья белорусских детей говорят о том, что у нашей страны будущего попросту нет.**

Если ехать из Минска в сторону Северного кладбища, то километрах в десяти от города взгляд натолкнется на указатель поворота со знакомой до боли аббревиатурой «РКПБ». Однако, уходящая вправо дорога ведет не к коммунизму, а в Республиканскую клиническую психиатрическую больницу, более известную в народе как «Новинки».

Сегодня в Беларуси проживает более 2 млн. детей и подростков. По словам главного детского психиатра министерства здравоохранения Республики Беларусь Натальи Григорьевой, психическое здоровье наших детей с каждым годом вызывает все большую и большую тревогу. Количество пограничных заболеваний у детей за последнее десятилетие выросло более чем в десять раз. Что же касается тех ребятишек, которые считаются психически здоровыми, то у сорока процентов пациентов обычных больниц самые привычные соматические заболевания являются следствием стресса или нервного расстройства. Врачи при обследовании не находят изменений в области сердца, легких или желудка, результаты анализов в пределах нормы – тем не менее, ребенок продолжает страдать от сердечных или астматических приступов, гастрита или холецистита. А снимает эти состояния не традиционное для таких болезней лечение, а психотерапевтическое воздействие и антидепрессанты. Сегодня в психиатре и психотерапевте нуждается каждая больница, но врачей этого профиля катастрофически не хватает.

Белорусские психиатры озабочены падением уровня жизни в республике, ибо психическое здоровье находится в прямой связи с уровнем жизни. Американские ученые проследили, что заболевания шизофренией чаще наблюдаются у людей, матери которых во время беременности недоедали. Еще более трагичными и непредсказуемыми могут быть последствия того, что в период формирования мозга ребенка мясо, рыба, фрукты и прочие полезные и нужные продукты оказались недоступными и заменялись дешевыми хлебом и картошкой. Основания для беспокойства имеются – по данным врачей, на продуктах питания сегодня экономят до шестидесяти процентов белорусских семей.

Чужая душа, как известно, потемки, и иногда психиатрам в полном мраке приходится искать ответ на вопрос: где кончается норма и начинается патология? В Новинках проходят судебно-психиатрическую экспертизу малолетние правонарушители. По наблюдениям врачей, детская преступность здорово помолодела. Если раньше им приходилось иметь дело с шестнадцати-семнадцатилетними подростками, то сегодня в роли наводящих ужас злодеев часто оказываются десяти-двенадцатилетние детишки.

На смену олигофренам и умственно отсталым подросткам из неблагополучных семей, которые раньше составляли костяк милицейских сводок, приходят малолетние преступники из вполне приличных семей с достаточно высоким уровнем интеллекта. Изменился и характер преступлений – они стали более жестокими и извращенными, в них участвует все больше и больше девочек... Помещенные на психиатрическую экспертизу в Новинки шести-семилетние дети интересуются у врачей их зарплатами, а получив ответ, искренне недоумевают, зачем работать за такие деньги; профессионально и с удовольствием объясняют непрактичным психиатрам, как с наибольшей выгодой превратить «зайчиков» в «баксы». Холодные, рассудительные, меркантильные дети, считающие, что «Дядя Степа» – это участковый, и хорошо знающие курс валют в коммерческих банках города. Они уходят из дома, и родители, которые раньше в таких случаях ставили на ноги милицию всей страны, сегодня даже не сообщают об исчезновении единственного ребенка. Многие даже испытывают облегчение от того, что избавились от лишних забот...

Своеобразной «группой риска» можно с полным правом считать детей-сирот. В мирное время в стране насчитывается 12,4 тыс. детей, родители которых лишены родительских прав. Большая часть сирот живет в государственных учреждениях интернатного типа, у 51% выявляются заболевания нервной системы. У детей, которые растут в неполных семьях, проявляются агрессивные тенденции.




Чернобыль, поделивший историю Беларуси на «до» и «после», оставил свой след и здесь. Врачи отмечают в чернобыльских районах значительный рост заболеваемости шизофренией, да и обострения у пациентов там возникают гораздо чаще. Но объявлять шизофрению результатом воздействия радиации они не спешат, потому что напасть эту вызывают не рентгены, а страх и состояние непрерывного стресса, в котором живут люди в этих местах. Чернобыльская катастрофа страшна еще и непредсказуемостью последствий своего воздействия. Постоянное влияние малых доз радиации может проявиться через поколения психическим Чернобылем, который станет для нации не менее трагичным, чем взрыв четвертого блока. Впрочем, почему станет? Проведенное в прошлом году обследование показало, что более 40% белорусских детей в возрасте до трех лет имеют нервно-психические расстройства. И это при том, что некоторые патологии, вроде задержки психического развития, проявляются только в возрасте шести-семи лет, и в три года их просто нельзя обнаружить. У детей постарше дела обстоят не лучше: психолого-психиатрическое обследование показало, что более 35% детей в возрасте 6 лет не достигают школьной зрелости и, попав в школу, тут же оказываются в числе неуспевающих. Растет количество детей с задержками психического развития, школьными неврозами и психической дезадаптацией.

Еще одной из причин возникновения психических проблем у молодых белорусов можно считать школьную нагрузку, которая, по мнению психиатров, является для них непосильной. Достаточно лишь сказать, что до 75% вновь заболевших 15-17-летних девушек – золотые медалистки и обладательницы красных дипломов. Не слишком ли высокой оказывается плата за отличные оценки? Скольких бед можно было бы избежать, если бы новые программы проходили экспертизу у психологов и психиатров, которые оценивали бы заложенные в них нагрузки со своих профессиональных позиций? Однако министерство образования не сочло нужным согласовывать программы с медиками. Поэтому сегодня подопытными кроликами, на которых проходят апробацию новации белорусских педагогов, становятся наши дети, которые, не справляясь с чрезмерными нагрузками, пополняют собой ряды психически больных граждан.

1994 год в истории Беларуси славен не только приходом к власти президента Лукашенко, но и тем, что именно с этого времени в республике начала складываться крайне сложная демографическая ситуация. Доля детей в общем количестве населения снизилась: на сегодняшний день на десять тысяч жителей приходится 91 ребенок – это в два раза меньше, чем в 1986 году. Кроме того, количество детей и подростков в возрасте до 18 лет в разных районах уменьшилось по сравнению с 1990 годом на тридцать-семьдесят тысяч человек. Ухудшается и здоровье маленьких граждан. Высок процент детской инвалидности: по данным на 1 января, в Беларуси было 241.547 детей с особенностями психофизического развития. Более 2 тысяч белорусских детей страдают от онкологических заболеваний. Еще большую тревогу вызывает состояние психики наших детей: в прошлом году психические заболевания были выявлены у 44.779 детей. Кроме того, на конец 1999 года на учете в Республиканской клинической психиатрической больнице состояло 14.545 подростков. Также отмечен рост пограничных заболеваний. Таким образом, всего на конец прошлого года те или иные психические заболевания были выявлены у 59.324 наших детей и подростков, а пограничные расстройства – у 29.523. Если взять цифры предыдущих лет, то можно отметить устойчивый рост психических заболеваний у молодых белорусов. Также растет количество детей, у которых психические заболевания были выявлены впервые в жизни: в прошлом году было зафиксировано 13.779 случаев первичных обращений. Между прочим, в прошлом году детьми было предпринято 245 попыток свести счеты с жизнью. По счастью, незавершенных. Пока...

Так выглядит будущее белорусской нации.

С папами и мамами этих малышей дело обстоит не лучше. Шведские ученые-психиатры, которые пару лет назад проводили семинар в белорусской ассоциации детей-инвалидов, на основе своих исследований прогнозировали: к двухтысячному году половина населения Беларуси в возрасте от сорока лет будет иметь отклонения в умственной деятельности. И малое утешение оказаться в рядах второй половины, потому что в такой ситуации здоровые становятся заложниками больных. И сколько бы ты ни воспитывал своего ребенка в духе христианских заповедей, как бы ты его ни оберегал, он абсолютно беззащитен перед дебилом или маньяком, который в любой момент может избрать его своей жертвой.

Когда после всех этих цифр слышишь, как какой-нибудь глашатай народной воли обещает электорату светлое будущее, невольно задумываешься – а вдруг он как раз из той самой половины, которая после двухтысячного года испытывает определенные трудности с интеллектом? ■

«НОУ ХАУ» САЦЫЯЛОГІІ

# Беларусы не існуюць у прыродзе

Сяргей АСТРАЎЦОЎ

Так, не існуюць. Гэтак, нібыта, лічыць больш за трэць насельніцтва Гродзеншчыны і нават 17,3% жыхароў сталіцы. Найменш згодны з тым, што «беларусы не існуюць як асобная этнічная група» на Брэстчыне – 8,9% і Магілёўшчыне – 10,9%. Такія вынікі апытанняў лабараторыі аксіёметрычных даследаванняў «Новак».

Кіраўнік лабараторыі А.Вардамацкі днямі выступіў у Гродне ў грамадскім аб'яднанні «Ратуша». Спачатку ён паведаміў дадзеныя гадавой даўнасці аб стаўленні да Лукашэнкі. Колькі, маўляў, за яго прагаласавала б хоць зараз, а колькі – у ніякім разе не падтрымала б. Потым прысутныя атрымалі свежыя вынікі апытання грамадскай думкі, у якім удзельнічала 1.608 чалавек з усіх абласцей. Публіку асабліва ўразіла адна гэтая лічба – 35,5% гродзенцаў лічаць, што беларусаў няма.




Паміж сабой мы пачалі абмяркоўваць, чаму ўзнікла такая лічба, няўжо гродзенцы настолькі не паважаюць беларусаў, саміх сябе – у параўнанні з жыхарамі другой заходняй вобласці – Брэсцкай? Ва ўсім гэтым, аднак, здзіўляе найболей сама пастаноўка пытання. Сп-р Вардамацкі зазначыў, што яго-ная лабараторыя не можа мець больш за 10% гадавога бюджэту з касы якой-небудзь адной арганізацыі. Дзеля таго, каб захоўваць сваю незалежнасць і бесстароннасць у даследаваннях. Маўляў, розныя арганізацыі заказваюць апытанні на розныя тэмы. Лабараторыя іх толькі выконвае. Карацей, хто плаціць, той і замаўляе музыку.

Аднак тут узнікае пытанне. Наўрад, каб спецыялістам з «Новака» заказчык жорстка дыктаваў сваю волю, прымушаючы карыстацца канкрэтным спісам пытанняў. Бо гэта справа, яшчэ раз трэба зазначыць, – менавіта знаўцаў, прафесіяналаў. Можна толькі здагадвацца, хто мог заказаць апытанне на тэму «Каго можна лічыць беларусам?» Зрэшты, адказы напачатку прапануюцца цалкам натуральныя – «таго, хто размаўляе на беларускай мове, як на сваёй роднай», «грамадзяніна РБ незалежна ад яго этнічнага паходжання», «хто запісаны беларусам у пашпарце» і г.д. Трэба сказаць, што адказы пакідаюць даволі аптымістычнае ўражанне.

І раптам, сярод дзевяці пытанняў трапляецца чужароднае і па форме, бо не з'яўляецца адказам на пытанне «каго можна лічыць беларусам?», і па змесце. У форме сцвярджання запісана «беларусы не існуюць як асобная этнічная група». Гэты пункт апытання – надзвычай некарэктны.

Ці магчыма падобнае апытанне ў суседніх краінах? Што здарылася б, каб нехта надумаўся высветляць: ці існуюць як этнічная група—палякі, літоўцы, рускія? Якой магла б быць рэакцыя грамадскай думкі, палітычных інстытутаў?

Усё відавочна. У краіне, дзе, як у часы «развітога сацыялізму», у гарадах паўторна знішчаная нацыянальная школа, дзе зборшчаны нацыянальныя сімвалы, можна смела надалей зневажаць усё беларускае. Дзёрзка. ■

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# «Хопіць адраджаць, прыйшоў час ганарыцца сваімі дасягненнямі»

Інтэрв'ю брала
Вольга АНЦЫПОВІЧ

**Сіламі «Беларускай капэлы» пад кіраўніцтвам Віктара Скарабагатава быў адноўлены не адзін твор беларускіх аўтараў, пра якія да гэтага няшмат хто чуў. В.Скарабагатаў кіруе капэлай з 1992 года, з моманту яе заснавання. Да гэтага была Беларуская кансерваторыя, якую ён пасняхова скончыў, а потым і выкладаў у ёй, стажыроўка ў Міланскім тэатры *La Scala*, Дзяржаўны тэатр оперы і балета, дзе ён быў салістам, тытул Заслужанага артыста Беларусі, Дзяржаўная прэмія за «Дзікае паляванне караля Стаха».**

***— Віктар Іванавіч, голас, якім Вы валодаеце, перадаўся Вам у спадчыну ад бацькоў? Гэта сямейная каштоўнасць, ці Вы адзіны і ў сваёй сям'і?***

— Спецыяльнага музычнага выхавання ў маёй сям'і ніхто не меў. У бацькоў, як і ў большасці людзей іх пакалення, быў вельмі складаны лёс, і гэта проста не давала ім магчымасці думаць пра нейкія высокія матэрыі. У пашане тады былі рэчы больш прагматычныя. Таму, калі я вырашыў паступаць у кансерваторыю, то мне ніхто не замінаў, але і не падтрымліваў майго рашэння. Музыка не ўспрымалася маімі роднымі як сапраўдная праца, якая можа пракарміць чалавека. Але калі шукаць музычныя карані маёй сям'і, то гэта, безумоўна, дзед і бабуля па лініі маці. Дзед быў вельмі музыкальным чалавекам: яшчэ ў тыя часы ў яго доме была фісгармонь, і валодаў ён рознымі музычнымі інструментамі. Музыку ён успрымаў як хобі, бо кіраваў заводамі, і з гэтага жыў. А яго жонка мела вельмі прыемны голас, у маладосці спявала ў царкоўным хоры, а дома – пад яго акампанемент.

***— З чаго для Вас пачалося адкрыццё беларускай класічнай спадчыны ў музыцы, як узнікла разуменне, што ёсць у Беларусі гісторыя і беларускай оперы, а не толькі рускай ці польскай, як гэта звычайна прадстаўлялася?***

— Калі я вучыўся, то была афіцыйна сфармуляваная палітыка дзяржавы адносна ўсяго беларускага, у тым ліку і адносна музычнай класічнай спадчыны. Заключалася яна ў тым, што беларуская музыка з'явілася і пачала развівацца толькі гады праз два пасля 1917 года. Зразумела, што былі людзі, якія займаліся вывучэннем беларускай музычнай спадчыны, але іх працы былі фактычна забароненыя. Таму склалася ўражанне, што ва ўсіх краінах, якія знаходзіліся побач з Беларуссю, класічная спадчына была, а ў нас – не. Шырока прапагандавалася думка, што тут тварылі ці то палякі, ці то рускія, але ні ў якім выпадку не беларускія музыкі. Напрыклад, у падручніках былі пэўныя згадкі, што існавалі на тэрыторыі Беларусі магнацкія тэатры, напрыклад, Радзівілаў ці Сапегаў. Але і Радзівілы, і Сапегі тады прадстаўляліся адназначна як польскія паны, якія мелі вельмі аддаленае дачыненне да беларускага народа. Ці яшчэ прыклад: усе падручнікі згадвалі пра «Сялянку», а далей паведамлялася, што лібрэта напісаў Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, а музыку – польскі класік Станіслаў Манюшка. Менавіта ад такой знявагі беларускай музыкі ў мяне і з'явілася цвёрдая перакананасць у яе існаванні. Прыйшло разуменне, што адбываецца наўмысная міфілагізацыя таго, што беларусаў як народа не існавала. Нашых творцаў адносілі да іншых народаў па розных прычынах. Напалеон Орда, які напісаў 14 паланэзаў, стаў палякам, бо лічылася, што паланэз – польская музыка. Але з гэтага проста не можа аўтаматычна вынікаць, што паланэзы пішуць толькі палякі. Гэта тое самае, што сцвярджаць, што ўсе праваслаўныя – рускія, а ўсе каталікі – палякі. Абсурд.



Фота Ул.ШЛАПАКА

***— У 1992 годзе Вы сталі мастацкім кіраўніком «Беларускай капэлы». Чым Вы кіраваліся, калі стваралі яе?***

— У аснову «Беларускай капэлы» мы паклалі арганізацыйныя прынцыпы капэлы XVII-XVIII стагоддзяў. А яе гісторыя ў нас даволі багатая, бо некалі на Беларусі існавала больш за 50 капэлаў і каля дзясятка навучальных установаў. Пад капэлай тады разумелі калектыў музыкантаў, які працаваў у адпаведнасці з жыццём двара і абслугоўваў усе ягоныя патрэбы. У капэле быў і хор, і балет, і аркестр, і школа. Мы вырашылі займацца аднаўленнем беларускай музычнай спадчыны, таму ўжо восем гадоў – з моманту ўтварэння – збіраем і даследуем старадаўнюю музыку. Капэла цяпер выконвае творы, якія да гэтага ці ніколі не гучалі, ці гучалі гадоў сто таму. Мы ставім ужо знаёмыя імёны на больш высокі ўзровень. Напрыклад, хто не ведае імёнаў С.Манюшкі або М.Агінскага, але хто ведае іхнюю музыку, іхнія творы? Яны шырока вядомыя толькі ў вузкіх колах сапраўдных аматараў. Капэла паставіла «Фаўста» Антонія Радзівіла – гэта быў першы яе паказ у XX стагоддзі. Сапраўдныя адкрыцці часам робіцца амаль выпадкова. Так, калі б не знайшла мяне сваячніца вучня Яна Тарасевіча, які першым звярнуўся да вершаў Максіма Багдановіча і напісаў да некаторых з іх музыку, то невядома, ці пабачыла б Беларусь такое музычнае адкрыццё. А між тым, Я.Тарасевіча лічыў сваім сябрам і захапляўся яго здольнасцямі сам Сяргей Рахманінаў.

***— Фестываль, які праводзіцца ўжо далёка не першы год, завецца «Адраджэнне беларускай капэлы». Ці можна казаць, што яна ўжо адрадзілася? Можа, надышоў час змяняць назву?***

— Адразу кажу, што сам даволі адмоўна стаўлюся да тэрміну «адраджэнне». Кожныя сто гадоў беларусы абвяшчаюць аб чарговым адраджэнні. Колькі можна? Трэба нарэшце проста пачынаць жыць і ганарыцца сваімі дасягненнямі – тым больш, што ёсць чым. Мая ідэя гэтай назвы – «Адраджэнне беларускай капэлы» – грунтавалася на тым, што мы пакажам, напрыклад, гісторыю станаўлення беларускай класічнай музыкі, умовы, у якіх яна існавала на еўрапейскім абшары, і прынцыпы яе развіцця сёння. Але праз тры гады стала зразумела, што мы знаходзімся толькі на пачатку свайго шляху. Бо разуменне каштоўнасці нашай спадчыны, усведамленне яе значнасці патрабуе вельмі шмат часу. Мы яшчэ не разумеем, што гэта сапраўднае мастацтва, якое павінна жыць і вывучацца належным чынам. І пакуль гэты шлях разумення не пройдзены, трэба пакідаць у назве «адраджэнне», хоць і не вельмі мне гэтае слова даспадобы.

***— А як у свеце ведаюць беларускую оперу, і ці ведаюць наогул?***

— Не ведаюць. Зусім. Ды як яе можна ведаць – калі няма амаль ніводнага аўдыё- ці відэазапісу, ніводнага кампакт-дыску, ніводнае музычнае выдавецтва ў Беларусі не выдае нотаў музычнай беларускай спадчыны?! Оперны тэатр не вывозіць на гастролі ні «Дзікае паляванне караля Стаха», ні «Фауста». Вязуць на паказ тое, што замаўляюць. А замаўляюць і немцы, і іспанцы, і галандцы класіку – тую, што яны ведаюць, невядомае ж яны слухаць не будуць. Каб выжываць, трэба здзяйсняць не свае планы, а выконваць пастаўленыя. А між тым, любы тэатр шмат губляе, калі не можа дэманстраваць творы на сваёй роднай мове. У свеце толькі некалькі тэатраў могуць дазволіць сабе такую раскошу, як выконваць твор на мове арыгіналу, астатнія ж працуюць на мове народа, сярод якога знаходзяцца. Гэта дзвесце гадоў таму на Беларусі было 26 оперных тэатраў і ўжывалася васем моваў. Людзі тады былі вельмі адукаваныя – як артысты, так і гледачы – пераклад нікому быў не патрэбны. Зараз жа мае знаёмыя італьянцы, якія глядзелі «Севільскага цырульніка», што ідзе па-італьянску, пыталіся: «На якой мове адбывалася дзея?»

***— Калі казаць пра оперу, то праблема недастатковага фінансавання тут, мабыць, вельмі актуальная. Ды і наогул, невысокія заробкі оперных спевакоў усе ўжо нават абмяркоўваць стаміліся...***

— Опера – гэта самая дарагая цацка ў свеце. Пры гэтым, яна толькі спажывае, нічога не зарабляючы. Адпаведна і трэба ставіцца да гэтага жанру, выдаткоўваючы грошы, колькі магчыма. Фінансаванне, зразумела ж, у нас кепскае, бо не можа быць росквіту оперы, калі няма росквіту эканамічнага ў дзяржаве. Але, тым не менш, оперу ў нашых умовах можа фінансаваць толькі дзяржава, бо я проста яшчэ не сустракаў людзей, якія б жадалі падтрымліваць класічныя віды мастацтва матэрыяльна. Заробак тых, хто працуе ў Оперным, невялікі – асабліва калі параўноўваць з савецкімі часамі. Аднак артысты з тэатра пакуль не бягуць. І ў кансерваторыю конкурс пры паступленні не зніжаецца. Не трэба думаць, што маладыя людзі, якія паступаюць туды, – рамантыкі нашага стагоддзя, што яны не думаюць пра матэрыяльны бок справы. Яны ведаюць, што грошы будуць невялікія, але затое можна зрабіць добрую міжнародную кар'еру. І гэта цалкам нармальна. Напрыклад, у нас вельмі моцная фартэпіянная школа, якая стала адной з лепшых у свеце. Жадаючых у ёй навучацца шмат, а вось канцэртная зала толькі адна. Заканамерна, што найбольш таленавітыя трапяць за мяжу і там зробяць кар'еру. ■

КІНО

# «Личность, от которой ничего не зависит»

Наталья РАДИНА

**Почти 10 месяцев национальная киностудия «Беларусьфильм» работала без генерального директора. На днях указом А.Лукашенко на эту должность был назначен чиновник из министерства культуры Вячеслав Шенько.**

После увольнения с должности генерального директора «Беларусьфильма» Сергея Лукьянчикова киностудией фактически руководило министерство культуры. И потому никого абсолютно не удивило, что новый генеральный директор — «их» человек. Хотя, похоже, на этот раз министерство решило пойти на компромисс.

В свое время группа режиссеров киностудии предлагала на должность генерального директора свою кандидатуру, первого секретаря Белорусского союза кинематографистов Александра Шкадаревича. Но минкульт тогда довольно внятно дал понять, что такая кадровая политика его не устраивает и руководить «Беларусьфильмом» должен более надежный и проверенный человек.

Новый гендиректор Вячеслав Шенько, похоже, оказался ко двору и «нашим», и «вашим». Во всяком случае, пока. До того, как занять в министерстве культуры кресло начальника госрегистра, он много лет проработал на национальной киностудии: сначала начальником звукового цеха, потом – главным инженером «Беларусьфильма». В.Шенько имеет добротное образование – диплом Ленинградского института киноинженерии.

О том, почему человек, выполнявший свою работу киноинженера на самом высоком уровне, ушел на чиновничий паек в министерство культуры, ходят всякие истории. И одна из них повествует, что для В.Шенько работа в госрегистре стала своего рода «ссылкой» за содействие независимым творческим студиям, которые в 1989-1991 годах взбунтовались против тотального контроля минкульта над киноискусством. В те годы



такие известные творческие объединения, как «Кадр», «Дебют», «Летопись», «Диалог», пытались построить новую, творчески свободную концепцию белорусского кино. Их благородные намерения не увенчались успехом – министерство культуры, видимо, опасаясь бунта и неповиновения, в буквальном смысле выставила из помещений «Беларусьфильма» на улицу независимые киностудии. На этом все благие начинания «независимых» пошли прахом – не имея своего помещения, практически все они перестали существовать.

По утверждению специалистов, таким образом была уничтожена творческая структура, на которой держался белорусский кинематограф.

Несмотря на то, что когда-то В.Шенько поддерживал независимую творческую интеллигенцию, его бывшие коллеги по «Беларусьфильму» сомневаются, что новый генеральный директор – именно тот человек, который сможет вывести белорусский кинематограф из глубокого кризиса. «Слава не похож на радикального революционера, — говорят они, — он очень порядочный и хороший человек. Он профессионал, но, тем не менее, он приходит в такую систему, в которой от личности ничего не зависит. И очевидно, что ничего в белорусском кинематографе не изменится, и он будет делать то, что ему велят. Воровать, может, только не будет».

**Юрий ХАЩЕВАТСКИЙ,** режиссер:

«Сегодня белорусский кинематограф может спасти совершенно-таки потрясающий, фантастический проект, который надо просто взять и осуществить. Например, на базе «Беларусьфильма» можно сделать второй телеканал, который бы производил сериальную продукцию. Надо совместить кино и телевидение. Вы понимаете, что это невозможно в наших условиях. Но туда сегодня должен прийти человек, который будет знать, что это можно сделать, даже вопреки воле президента, который, конечно же, не даст это сделать. Ведь второй канал ему нужно держать в руках, как и первый. Вячеслав Шенько – замечательный человек, но он прагматик, а здесь нужен мечтатель, идеалист. Но если такой человек вдруг появится, то его моментально попрут оттуда, система его вышвырнет. Я рад, что там появился порядочный человек. Но этому порядочному человеку придется представлять очень непорядочную систему».

В любом случае, Вячеслав Шенько – именно та компромиссная фигура, которая хоть на время удовлетворит обе стороны: министерство культуры и киностудию «Беларусьфильм».

С другой стороны, сейчас должности гендиректора «Беларусьфильма» может позавидовать только сумасшедший, подобное назначение – как приговор. Сегодня белорусский кинематограф производит продукцию, на которую нет ни спроса, ни рынка сбыта. Всесоюзного проката больше нет, а кино – это слишком дорогая игрушка. И потому объем создаваемых киностудией фильмов сокращен в 3-4 раза. Отсюда – массовый уход профессионалов, при отсутствии притока новых сил.

Кроме того, сама киностудия, мягко говоря, в аварийном состоянии. Многие цеха, некогда очень прибыльные и необходимые для создания качественного кино, или прекратили свое существование, или дышат на ладан. Так, что новому генеральному директору можно только посочувствовать – и пожелать удачи. ■

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



КУЛЬТУРА

# «Балець» забаронена, альбо «народ, без эмоцыяў!»

Віктар СЕВЕРЦАЎ

**Апошнім часам стала да агіды непрыемна наведваць любыя спартовыя спаборніцтвы па гульнявых відах спорту, калі яны праходзяць у Беларусі, і ў Мінску ў прыватнасці. Ці то гэта футбол, ці то хакей, альбо нават баскетбол – без розніцы. Заўсёды існуе рызыка больш папсаваць сабе на гульні нервы, чым адпачыць, расслабіцца ды выкінуць лішнюю энергію, эмоцыі. Прычына гэтага – надзвычай жорсткі, проста грубы міліцэйскі кантроль за любым рухам аматара спорту, які ўсталёўваўся ў нашай краіне апошнія прыкладна 5-6 гадоў (улоўліваеце, з чаго ўсё пачалося?).**

Тыя, хто наведваў спаборніцтвы ў 1993-1994 гадах, памятае тую атмасферу ўзаемнай згоды і разумення, што панавала ў шэрагах заўзятараў у той час. Галоўнай мэтай паходаў на спаборніцтвы была падтрымка сваёй каманды – што вельмі лагічна.

Сітуацыя пачала кардынальна змяняцца дзесьці ў пачатку 1995 года. Падчас афіцыйнай гульні нацыянальнай каманды Беларусі па футболе са зборнай Мальты 26 красавіка ў гледачоў канфіскоўвалі сцягі бел-чырвона-белых колераў – не зважаючы на тое, што гэты сцяг яшчэ піва баначнае, а яшчэ пазней было забаронена прадаваць піва, віно і, зразумела, гарэлку падчас міжнародных футбольных матчаў ва ўсіх крамах, што знаходзяцца на адлегласці, меншай за 500 метраў ад стадыёна. За мяжою ж піва ў пластыкавых шклянках прадаюць проста на стадыёне ў час гульні, і не бачаць у гэтым нечага крамольнага. Хаця ў нас, канешне ж, сітуацыя асаблівая, бо на гульні ходзіць адзін нам усім вядомы чалавек, які, як сам прызнаўся, «не то няп'ючы, не то мала п'ючы».

Паступова «рэпрэсіі» супраць заўзятараў пашырыліся яшчэ больш, займелі новы фармат. Хутка апроч футбола прыйсці з бел-чырвона-белым сцягам стала немагчыма на любую міжнародную сустрэчу – па хакеі, баскетболе альбо водным пола. Пазней гэтую практыку распаўсюдзілі на ўсе спаборніцтвы. І хоць у юрыдычным плане асоба, якая пачне махаць на гульні бела-чырвона-белым сцягам, нічым не рызыкуе – бо гэта абсалютна ніякае не парушэнне закона, – то ў маральна-грашовым плане губляе шмат. Інакш кажучы, выведуць цябе пад белы ручкі з гульні, і сцяг забяруць, і назад не пусцяць, і грошы за квіток не вернуць. Тым не менш, адважных заўсёды хапае.

Цікава, што такі «жалезны» парадак на трыбунах датычыцца толькі «сваіх» заўзятараў. Звярніце ўвагу, як паводзяць


Фота IREX/ProMedia

афіцыйна прызнаваўся дзяржаўным. Зрэшты, змяненні закранулі не толькі «ідэалагічную» частку заўзятараў, але і тых, хто проста жадае падтрымаць «сваіх», не хаваючы эмоцыяў суперажываць разам з спартоўцамі кожны гол, пас або небяспечны момант. Такім чынам аматары спорту здымаюць свой стрэс, расслабляюцца і палянаюць сваё самаадчуванне. Ва ўсякім разе, так ва ўсім свеце.

Але ж у Беларусі ўсе гэтыя бурныя воклічы, мусіць, пачалі не падабацца і раздражняць кагосьці «наверсе». У выніку, увосень 1995 года падчас гульняў футбольных еўракубкаў упершыню ашаломлены балельшчыкі пачулі міліцэйскія мегафонныя заклікі кшталту: «Граждане, давайте на футболе без эмоций, вы же не на митинге!» альбо «Вы что, на футбол кричать пришли или смотреть? Сидите тихонько и хлопайте!» Спачатку гэты разгул абсурду вельмі раздражняў і запалохваў бальшыню «фанатаў», але пазней на выкрыкі міліцыянтаў пачалі проста не звяртаць увагу. І вось тады настаў час сапраўднай «трыбуннай дыктатуры».

Спачатку заўзятарам забаранілі праносіць на стадыён піва і безалкагольныя напоі ў шкляной тары, бо, маўляў, імі можна кінуць і параніць футбаліста. Пазней пад забарону трапіла сябе міліцыянты і АМАП з групамі замежнікаў, што прылятаюць у Беларусь паперажываць за сваіх землякоў. Яны ж робяць тут, што пажадаюць! У памяці назаўжды адклаўся момант, калі падчас футбольнага матча Беларусь—Шатландыя шатландцы, перапіўшы віскі, проста ляжалі на тэрыторыі стадыёна з задранымі кільтамі (гэта такая спадніца ў клетку, якую ў Шатландыі носяць мужчыны), а беларускія міліцыянты асцярожна пераступалі цераз іх – каб не ўтварыць, барані Божа, «міжнародны рэзананс».

Але гэта з замежнікамі далёкімі. А з ужо амаль сваімі «дарагімі расіянамі» ў жніўні мінулага года беларускія праваахоўнікі абышліся па-свойску. У той дзень было затрымана больш за 50 расійскіх фанатаў, што памылкова не пабачылі адрозненія паміж стадыёнам у Мінску і ў якім-небудзь Раменскім.

Між тым, непасрэдна ў спорце ў нас усё даўно ідзе на спад. І летась, і сёлета беларуская гульнявікі прайгралі амаль усё, што можна, ды яшчэ з такімі вынікамі, што, слухаючы зводку спартыўных навінаў, міжволі даводзілася чырванець. Нашым «стадыённым начальнікам» усе гэтыя няўдачы – прынцыпова «да лямпачкі». Менш выйграюць – менш будуць гуляць... Галоўнае – каб без эмоцыяў! ■

# На пути к Атлантическому разводу?

Майкл ХОВАРД,

депутат Британского парламента, член правительства с 1990 по 1997 год

**Тенденции, появившиеся по обеим сторонам Атлантики, подрывают полувековое партнерство между Северной Америкой и Европой. Если эти тенденции станут ареной соперничества, когда одна сторона будет стремиться к преимуществу над другой, мир станет менее мирным, менее стабильным и менее процветающим.**

Какие силы двигают Америку и Европу в разные стороны? Один из факторов состоит в том, что центр гравитации Северной Америки передвигается на запад. Калифорния уже давно обогнала Нью-Йорк, как самый населенный штат США. Британская Колумбия играет все более важную роль для Канады. Силиконовая Долина и Майкрософт расположены на западном побережье. Япония, несмотря на недавние трудности, остается экономическим гигантом. И Китай для США является одновременно и величайшей экономической возможностью, и величайшим потенциальным суперсильным соперником.

Попытки США расширить свою экстра-территориальную юрисдикцию, включая попытку запретить британским бизнесменам посещать Кубу, подогревают негодование Европы. Отношение Европы к импорту каррибских бананов и «гормонализованной» говядины вызывает сильную реакцию в Северной Америке. Эти торговые диспуты сложно уладить из-за разницы коммерческих интересов. Компании все чаще взывают к помощи своих правительств.

Угрозы атлантическому партнерству со стороны Европы так же зловещи. Они вдохновлены интеграцией Европы. Это отчасти ясно мотивировано желанием создать европейского соперника мощи США. Я говорю «отчасти», потому что не все, кто поддерживает создание единого европейского государства, являются антиамериканцами. Но есть и такие.

Во Франции, во время референдума 1992 года по Маастрихскому соглашению, один из плакатов, использованных агитаторами в пользу положительного голосования, изображал Янки-ковбоя, раздавливающего своими сапогами земной шар. Надпись гласила: «Построить единую Европу – значит придать нам весу».

Президент Миттеран выразился еще более пылко: «Франция об этом не знает, но мы находимся в состоянии войны с Америкой. Да, в бесконечной войне, важной войне, войне без смертей. Да, они очень жесткие, эти американцы, они ненасытны, они хотят безраздельной власти над всем миром». Многие адвокаты евро хотели бы, чтобы эта валюта соперничала с долларом как международная резервная валюта.

До определенного предела, и при условии, что решения принимаются на основе консенсуса, для единой иностранной политики ЕС есть все необходимые предпосылки. У членов ЕС есть много общих интересов. И есть смысл защищать и продвигать эти интересы кооперативными, координированными действиями. Но с увеличением потенциала подобных акций увеличивается и потенциал возможного конфликта с Северной Америкой. Политика европейских стран в отношении таких стран, как. например, Куба, Израиль, Ирак и Ливия, отличается от политики США.

До сих пор эти различия не мешали фундаментальной гармонии альянса. Но не так сложно предвидеть ситуации, в которых эта разница может стать важной. Что если ЕС примет совершенно другую точку зрения на передачу современной технологии Китаю, чем США?

Самой чувствительной стороной вопроса является будущее военных отношений между Европой и Северной Америкой. На протяжении 50 лет именно эти отношения были краеугольным камнем партнерства, несмотря на сложности, вызванные тем, что не все европейские члены NATO являются членами ЕС и не все члены Европейского союза являются членами NATO.

Холодная война была тем клеем, который держал оба берега Атлантики вместе. Напряжение и различия бледнели перед советской угрозой. Клей растворился. И поскольку угрозы больше нет, многие думают, что можно и рискнуть.

Это – глубоко ошибочная и поверхностная точка зрения, хотя и широко распространенная в Европе, с несколькими приверженцами в Британии. Если партнерство будет заменено на соперничество, а соперничество – на враждебность, проиграют и Европа, и Америка. Кто-то может сказать. вернее, уже говорит, что Европа никогда не сможет соревноваться с Северной Америкой, и что все подобные попытки заранее обречены на провал. Но даже попытки подобного соперничества наносят ущерб партнерству.

Многие проблемы, возникшие после «холодной войны», могут быть наилучшим образом решены, только если Европа и Америка действуют заодно. Косово – является одним из примеров. Даже на далеком Восточном Тиморе Британия и Америка оказывают поддержку основному австралийскому континенту.

Если вместо совместной работы Европа и Северная Америка начнут заниматься своими проблемами со своих собственных позиций и повернут их на рельсы соперничества и враждебности, остальная часть мира окажется в самом невыгодном положении. Что если, скажем, произойдет столкновение между Тайванем и Китаем? Будут ли Европа и Америка на одной и той же стороне? Что если Европа и Америка разойдутся во мнениях по поводу какого-нибудь будущего конфликта на Балканах?





Чтобы поддержать атлантическое партнерство, необходимо сделать большое усилие, чтобы миротворцы с обеих сторон старались минимизировать проблемы. Без подобных усилий Атлантическое партнерство в момент своего величайшего процветания может быть обречено на развод. ■

P.S.

СПОРТ



Фота IREX/ProMedia

# Пачалі з перамогі

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Выдатную гульню паказала беларуская нацыянальная каманда на чэмпіянаце свету па хакеі, які стартаваў у мінулую суботу ў Санкт-Пецярбургу (Расія). Сёлета Беларусь гуляе ў групе «А» (сусветная эліта). У першай гульні нашыя землякі літаральна разбілі ўшчэнт зборную Украіны. Лік 7:3 (па перыядах – 3:1;3:1;1:1) гаворыць сам за сябе. Болей шайбаў у першым туры закінула толькі як ніколі моцная сёлета каманда Расіі, якая, дарэчы, гуляе на родных пляцоўках.

Цікава, што ў склад нашай каманды ўваходзяць толькі гульцы-легіянеры, а інакш кажучы, хакеісты-беларусы, што гуляюць у замежных клубах. Болей такой сітуацыі не назіраецца ні ў адной зборнай. Прычына, відавочна, у тым, што зарабляць у Беларусі столькі, колькі яны атрымоўваюць на Захадзе, – проста немагчыма. На сённяшні дзень беларуская нацыянальная зборная застаецца такой жа моцнай, як і раней — але вось хакейныя клубы цяпер выглядаюць зусім кволымі.

У другім туры беларусы згуляюць з камандай Латвіі, што ў першым туры пацярпела паразу ад зборнай Швецыі. Пры перамозе альбо нічыёй нашыя хакеісты забяспечаць сабе пападанне ў наступны этап спаборніцтваў, дзе, праўда, і супернікі будуць куды мацнейшыя. ■

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1770 Нумар падпісаны ў друк 02/05/2000 (15:00) Наклад – 9.040

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018